


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

10 мая 2002 года

№ 19 (368)

Выходзіць па пятніцах

ПАНОС Тэлетыдзень

## З Днём Перамогі!



Фота IREX/ProMedia.

## Навіны рэгіёна

### Закрываюць школы

**ВАЛОЖЫН.** Аддзел адукацыі рыхтуе рашэнне аб закрыцці з 1-га ліпеня трох сельскіх школ з-за іх малакамплектнасці.

Так, у Кражынскай пачатковай школе – 8 вучняў, у базавай Узбалацкай і Пярэжырскай – па 22 і 18 вучняў.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Першыя крокі ў навуку

**СМАРГОНЬ.** Вучаніцы гімназіі **Таццяна Талочка**, **Вольга Сяргеева** і **Ала Еўтух** сталі лепшымі ў рэспубліканскім конкурсе навуковых біёлага-экалагічных работ сярод школьнікаў.

Алу Еўтух, якая напісала даклад "Ацэнка забруджанасці атмасфернага паветра ў ландшафтна-батанічным заказніку Блакітныя азёры", запрасілі на міжнародную канферэнцыю імя акадэміка Андрэя Сахарава.

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**

### Масавы адпачынак у бальніцы

**МАЛАДЗЕЧНА.** З 1-га мая ўрач і 8 медсёстраў ЛОР-аддзялення гарадской бальніцы пайшлі ў адпачынак.

Як расказаў галоўны ўрач бальніцы **Казімір Клыга**, гэта робіцца ўпершыню, для эканамічнай выгады гарадского тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання. Сёлета запазычанасць бальніцы складае 1 мільярд рублёў. Але для экстранных выклікаў і хворых, якім патрабуецца неадкладная дапамога, пакінулі аднаго ўрача.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### Сустрэча з «Элегіяй»

**ВІЛЕЙКА.** 7 мая ў раённым Доме культуры прайшла вечарына музыкі і паэзіі "Сустрэча з "Элегіяй". Гэтае трыо існуе 3 гады, яго складаюць **Людміла Шагава** (скрыпка), **Уладзімір Лапцік** (гітара), **Таццяна Захарыч** (сола).

"Элегія" і госці вечарыны спявалі рамансы і бардаўскія песні.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### Лавілася рыбка

**СМАРГОНЬ.** Такога відовішча Вішнеўскае возера, што недалёка ад горада, яшчэ не бачыла. 508 чалавек з усёй краіны прыехалі сюды, каб выпрабаваць сваё рыбацкае шчасце.

Спаборніцтва працягвалася 5 гадзін. Урэшце, толькі 34 рыбаловы вярнуліся з уловам. І самы вялікі быў у смаргонскага хлопца **Паўла Амбрасевіча** – шчупак вагой 3,9 кілаграма, не лічачы дробнай рыбкі. Агульная вага яго ўлову – 6,3 кілаграма. Ён стаў чэмпіёнам Беларусі сярод аматараў і атрымаў фірменны лодачны матор. Другое месца заняў **Уладзімір Цвяцінскі**, які налавіў 4,4 кілаграма шчупакоў.

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**

### Надвор'е на выхадныя

| | | |
|---|---|---|
| **Субота, 11 мая** | | |
| Мінск | 11°С (уначы) 25°С (удзень) | |
| Вільня | 10°С (уначы) 25°С (удзень) | |
| **Нядзеля, 12 мая** | | |
| Мінск | 15°С (уначы) 25°С (удзень) | |
| Вільня | 10°С (уначы) 25°С (удзень) | |

# Сапраўдная сям'я – сем «я»

**Гавораць, што сапраўдная сям'я – гэта сем "я". Значыць, двое бацькоў і пяцёра дзяцей. Так і ёсць у сям'і Самалёў.**

**Тамара** і **Косця** гадаваліся ў сем'ях, дзе было па трое дзяцей. Тамара жыла ў Чысці, Косця – з Вілейскага раёна. Аднойчы яны сустрэліся на вяселлі сваіх сяброў у Маладзечне. Тамара вельмі спадабалася Косцю. Ён спытаўся:

– Можна, падару табе кветачку і запіску?

– Падары.

Што там было напісана, Тамара так і не прачытала, бо згубіла яе.

Так яны і разышліся. Праз некаторы час ад яго прыйшло пісьмо. Косця тады заканчваў службу ў арміі. Пасля арміі сябравалі 1 год. Косця прапанаваў выйсці замуж. Тамара сказала, што падумае. Думала цэлы месяц. Косця зноў запытаўся:

– Ну што, прыдумала?

– Не.

І яшчэ цэлы месяц думала.

Калі яны ажаніліся, Тамары было 20 год, а Канстанціну – 23. Пражылі ўжо 20 год. І ніводнай сваркі, ніводнага скандалу.

– Калі ён на мяне сварыцца, маўчу. Калі я на яго – трывае.

Неўзабаве нарадзілася дачушка **Эліна**.

Тамара не магла сабе ўявіць, што з цягам часу яна стане мнагадзетнай маці. Усе імёны дзецям прыдумала сама. Хацела, каб дзеці чымсьці вылучаліся.

Гатаваць Тамара не любіць. Асабліва што-небудзь складанае. Дзесьці адзін дзень на тыдзень аддае на гатаванне. Нагатуе – і ў маразільнік.

Посуд потым мые машына, адзенне – таксама машына. Прыбірацца дапамагаюць усе дзеці. Канстанцін – па будаўнічых і рамонтных работах вялікі спецыяліст. Дом, у якім яны жывуць, 15 год падбудоўваюць, падладкоўваюць нешта. Гэта іх асабісты праект. Але ўсім кіруе і трымае дысцыпліну ўсё ж Тамара.

Адзенне купляюць у Сэканд-хэндзе, перашываюць, сучаснымі замежнымі каталогамі карыстаюцца. Ёсць 4 пары ролікаў, 6 веласіпедаў, аўтамабіль, 7 пар лыжаў.

Бацька працуе дворнікам у "Камунальніку". Тамара хутка будзе працаваць на фабрыцы музычных інструментаў мастаком-афармiцелем. Калі была ў дэкрэтным водпуску тры разы запар, вельмі хацелася на работу. А цяпер – не.

– Мо, яшчэ раз мамай станеце?

– (Усміхнулася) Узрост, мабыць, ужо не той – 40 год.

Сям'я Тамары і Канстанціна Самалёў заняла першае месца ў абласным конкурсе "Лепшая мнагадзетная сям'я-2002". Яны выхоўваюць 5 дзяцей: 19-гадовую Эліну, 14-гадовую Нілу, 12-гадовага Данілу, 10-гадовую Валерыю і 2-гадовага Давіда.

За перамогу ў абласным конкурсе сям'я Самалёў атрымала 1 мільён рублёў, чайны сервіз, ласункі, боцікі, касцюм, джынсы, цырату на стол і паркалёвую тканіну.

**Ірына РАБУШКА.**



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Пераможца абласнога конкурсу "Лепшая мнагадзетная сям'я-2002" Тамара Самаль з 2-гадовым сынам Давідам.**

# Адмена часткі абавязковых школьных экзаменаў: «за» і «супраць»

Я звярнулася з пытаннем да настаўнікаў і вучняў пра іх стаўленне да адмены экзаменаў па беларускай літаратуры і замежнай мове.

У выніку кароткага можна сфармуліраваць аргументы «за» і «супраць» рашэння міністэрства адукацыі.

**Аргументы за захаванне абавязковых экзаменаў:**

**– Скарачэнне экзаменаў яшчэ больш ускладняе магчымасць вучняў паступіць у ВНУ, таму што замежная мова з'яўляецца адным з асноўных экзаменаў пры паступленні.**

**– Вучні і настаўнікі не будуць надаваць патрэбнай увагі урокам па замежнай мове і беларускай літаратуры.**

**– Праз некалькі год моладзь не будзе ведаць, хто такі Янка Купала, Якуб Колас, Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Уладзімір Караткевіч.**

**– Англійская мова – сродак зносінаў у свеце. Наш час патрабуе спецыялістаў з абавязковым веданнем замежнай мовы.**

**Аргументы за адмену абавязковых экзаменаў:**

**- Скарачэнне экзаменаў патрэбна для "разгрузкі" вучняў.**

**- Часу для падрыхтоўкі да паступлення ў навучальныя ўстановы будзе больш.**

**- У школе патрэбныя экзамены толькі па тых прадметах, якія вучні павінны здаваць ва ўніверсітэт.**

**Валянціна ЦІХАНАВА.**

■ **ЗВАРОТ САКРАТАРЫЯТА ГА «ТБМ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ»**

## «Вернем экзамен па беларускай літаратуры ў школу»

У красавіку Міністрам адукацыі Рэспублікі Беларусь было прынятае рашэнне па скарачэнні колькасці абавязковых выпускных экзаменаў за курс сярэдняй школы за кошт замежнай мовы і беларускай літаратуры. Гэтая сітуацыя выклікае глыбокую занепакоенасць Таварыства беларускай мовы. Хочам нагадаць паважанаму міністру сп. **Пятру Брыгадзіну**, што нават у часы сталінскай дыктатуры і разгрому беларускіх нацыянальных кадраў вусны выпускны экзамен за курс сярэдняй школы па беларускай літаратуры не адмяняўся: бацькі, дзяды, прадзеды сённяшніх школьнікаў здавалі яго ў абавязковым парадку. Паводле нашага глыбокага перакананння, выкананне названага рашэння міністра адукацыі прывядзе да значнага пагаршэння ў валоданні вуснай беларускай мовай абсалютнай большасцю выпускнікоў сярэдніх школ Беларусі, а адмена такога рашэння з кожным годам будзе ўсё больш і больш праблематычная.

У сувязі з вышэйсказаным, заклікаем Міністра адукацыі ўнесці папраўкі ў прынятае раней рашэнне, як мінімум, аднавіўшы абавязковы характар вуснага выпускнога экзамена па беларускай літаратуры. Не сумняваемся, што пазіцыю, аналагічную нашай, сёння занялі б і Янка Купала, і Якуб Колас, чые 120-гадовыя юбілеі маюць адбыцца сёлета, а таксама і ўсе класікі беларускай нацыянальнай літаратуры.

**2 мая 2002 г.**

■ ТРАДЫЦЫІ

# Каравай у 5 пудоў

**ВІЛЕЙКА. Велікодны каравай, які прыхаджане Свята-Ціханаўскай царквы выпеклі ўжо ў восьмы раз, заважыў каля 5 пудоў. На яго пайшло больш за 230 яек, нямерана мукі і іншых неабходных у гэтай справе складнікаў.**

Адведаць традыцыйны святаціханаўскі каравай прыходзяць самыя розныя людзі. Гаспадары не дзеляць іх па адносінах да рэлігіі або прыналежнасці да канфесій.

Для таго, каб яго падняць, былі зробленыя спецыяльныя насілкі. Учатырох з цяжкасцю перанеслі. Хаця сёлетні каравай не самы вялікі. Затое – самы вядомы. Прыязджалі пакаштаваць велікоднага пачастунку і маладзечанцы.

А выпеклі каравай у сталоўцы завода адкрытага акцыянернага таварыства "Буддэталі".

**Мікола ГАЙДУК.**



Фота Міхаіла ПЕТУХА.

**Ля каравая яго стваральніцы Таня Несцяровіч, Наталля Адамовіч, Валерыя Легуш, Алеся Глушакова.**

# «Чужыя» дзеці

**МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе зарэгістравана 94 сям'і, якія выхоўваюць 113 прыёмных дзяцей**

## Лёсы

... Бабуля пашкадавала аддаць унука ў дзіцячы дом. Вырашыла выхоўваць яго сама. Разам з бабуляй і ўнукам жыла маці хлопчыка. Яе пазбавілі бацькоўскіх правоў. Аднойчы маці пайшла да свайго сябра і ўзяла з сабой сына. Сын забіў мамінага знаёмага.

... Бацькі жылі сваім незразумелым для дзяцей жыццём. 8- і 12-гадовы браты былі пушчаны на самацёк. Старэйшы ўцягнуўся ў таксікаманію. У 12 былі ўжо незваротныя працэсы. Прывучыў і малодшага брата. На пытанне, што ён адчувае пры гэтым, адказаў: — Я лячу на неба.

... Маці пасадзілі ў турму. Засталася маленькая дачушка. Адна. Праз некаторы час яе ўзяў пад апеку дзядзька.

## Галіна + Валянціна

У 18 год Галіна Юхневіч засталася без бацькоў, У 20 выйшла замуж. Нягледзячы на забарону ўрачоў, нарадзіла сына. У 31 засталася без мужа. Усе надзеі і жаданні мець дачушку, здаецца, былі перакрэсленыя.



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Галіна Юхневіч.**

Па суседстве жыла дзяўчынка. Чымсьці падобная на Галіну. Яна таксама была адна. Бацька ніколі не прыходзіў. Маці выпівала. Галіна вырашыла ўзяць гэтую дзяўчынку на некаторы час. Так у сям'і Галіны з'явілася доўгачаканая дачушка Валянціна. Тады ёй было 8 месяцаў. Вельмі цяжка было адной гадаваць двух дзяцей. Валянціна шмат клопатаў не дастаўляла. Хадзіць пачала ў 9 месяцаў. Яна была вялікая непаседа і таўстушка. Калі першы раз назвала мамай, Галіна плакала: —Усё ж такі чужое дзіця.

У першым класе Валянціна спыталася ў маці, чаму ў іх розныя прозвішчы. І даведалася, што маці ў яе не родная.

Цяпер Галіна, яе сын Руслан і Валянціна жывуць у адной двухпакаёвай кватэры. Руслан ставіцца да Валянціны, як да роднай сястры. Але бывае, злуецца, што маці больш шкадуе сястрычку. У Валянціны яшчэ ёсць родныя брат і сястра. Яны жывуць у інтэрнаце. Брат па-добраму зайздросціць ёй: — Ты старэйшая. Табе пашанцавала.

Галіна ездзіць іх адведваць. Гаворыць, што калі гэтым дзецям не будзе куды пайсці, яе сэрца і аднапакаёўка адкрытыя. Родную маці Валянціны пазбавілі бацькоўскіх правоў за п'янства. Жыве ў Маладзечне. Са сваімі дзецьмі ніколі не сустракаецца. Ды і дзеці не хочуць бачыць сваю маці.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ВЫСТАЎКІ

# Традыцыі і сучаснасць

**МІНСК. У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Рэспублікі Беларусь праходзіць выстаўка "Традыцыі і сучаснасць". На ёй прадстаўленыя калекцыі "Кераміка", "Шкло", "Фарфор" са збораў музеяў Мінскай вобласці.**

У выстаўцы ўдзельнічаюць 9 музеяў з вобласці. Усе прадстаўленыя экспанаты былі створаныя ці мелі бытаванне на тэрыторыі Мінскай вобласці ў XIX-XX стагоддзях.

Сярод удзельнікаў выстаўкі – Івянецкі музей Дзяржынскага. Яны прывезлі кераміку ў выкананні майстроў **Вітольда Куліkоўскага, Івана Маўчановіча, Міхаіла Звярко, Анатоля Высоцкага, Алега Раманоўскага** і інш.

Дырэктар музея Алег Раманоўскі:

— Усе экспанаты былі спецыяльна падабраныя да выстаўкі. Хацелася больш поўна паказаць развіццё керамікі ў Беларусі ад пачатку да канца XX стагоддзя наогул, і Івянецкай школы, у прыватнасці. Івянец быў цэнтрам керамікі ў Беларусі. Славіўся сваімі майстрамі.

Мінскі абласны краязнаўчы музей (МАКМ) у Маладзечне прадставіў таксама работы івянецкіх майстроў па кераміцы М. Звярко, **А. Пракаповіча**, І. Маўчановіча.

Намеснік дырэктара па навуковай рабоце Таісія Лянкевіч:

— Мы, як абласны музей, набываем экспанаты Івянецкай керамікі.

3 сучасных майстроў МАКМ паказаў работы **М. Ржавуцкага** з Барысава. Вельмі цікавыя работы са шкла **Таццяны Арцёмавай**. Разам з мужам **Пятром** ужо шмат год робяць прызы для "Славянскага базара" ў Віцебску. З ліку вядомых майстроў былі прадстаўленыя работы **Сяргея Грахоўскага** і **Уладзіміра Пракоф'ева**.

Выстаўка "Традыцыі і сучаснасць" закрыецца 21 мая.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ТЭАТР

# Барыс Донін: на сцэне па загадзе камандзіра



Фота Барыса ВАВІЛАВА.

**Акцёры Мінскага абласнога драматычнага тэатра Барыс Донін і Эмілія Ларыёнава.**

**Акцёра Мінскага абласнога драматычнага тэатра (МАДТ) Барыса Доніна можна назваць у пераліку самых вядомых людзей Маладзечна. Часта можна пачуць такія словы: — Сёння пойдзем у тэатр на Доніна.**

І гэта не дзіва. Барыс Ільіч працуе ў МАДТ з дня яго заснавання. Шмат роляў давялося сыграць акцёру. Гэта і роля Хадзеева ў "Кіме" А. Дударава, Мацея ў "Характарах" В. Шукшына, Юткі ў "Вавілоне" А. Дударава і інш. Цудоўна выступае Барыс Ільіч і ў дзіцячых спектаклях: "Парася, якое спявае" С. Казлова, "Чарадзейства ў краіне Оз" Г. Булыкі.

А ягоны прыход у мастацтва быў выпадковы.

— У 1962 годзе ў час службы ў арміі, — расказвае Барыс Ільіч, — ставілі літмантаж "Хотят ли русские войны?". А юнак, што ўдзельнічаў у пастаноўцы, захварэў. Па загадзе камандзіра я і апынуўся на сцэне.

Вось так, дзякуючы хваробе саслужыўца, вырашыўся лёс акцёра. Далей былі Гродзенскі дом афіцэраў, ГДК 1972 г., народны тэатр.

У народным тэатры ў першым спектаклі "Самая кароткая ноч" сыграў ролю кіраўніка палётаў. А далей былі "Старэйшы сын", "Жыццё ўсяго адно".

Барыс Ільіч неаднаразова ўзнагароджваўся дыпломамі лаўрэата прэстыжных тэатральных фестываляў народных тэатраў краіны. На фестывалі ў Рызе ў 1984 годзе атрымаў прыз за лепшую мужчынскую ролю.

У 1991 годзе з адкрыццём МАДТ тэатральнае хобі перарасло ў прафесійны занятак.

Сярод любімых акцёр назваў ролі Флора Фядулыча ў "Апошняй ахвяры" А. Астроўскага, Бацькі ў "Чорнай нявесце" Жана Ануя.

Наогул, Барыс Ільіч перавагу аддае класічным творам, хоць з цікавасцю працуе з п'есамі сучасных драматургаў.

У апошняй прэм'еры тэатра "Хочаш вер – хочаш не вер" Юрыя Вуты Барыс Ільіч сыграў ролю Пашкі. А сама прэм'ера, дарэчы, была прымеркаваная да юбілею Барыса Доніна.

Донін прайшоў разам з тэатрам крок за крокам шлях станаўлення ад народнага да прафесійнага, раздзяліў з ім горыч цяжкасцяў і радасць перамог. Таму невыпадкова, што да яго слова прыслухоўваецца і адміністрацыя, і моладзь.

З характарыстыкі Б. Доніна: "Творча ставіцца да працы, з'яўляецца прыкладам для моладзі. Аказвае вялікую дапамогу адміністрацыі тэатра ў выхаванні творчых адносін у калектыве".

**Валянціна ШЫКАВЕЦ, Таццяна СЕМАШКЕВІЧ.**

# Выстаўка памяці Аляксея Фяцісава

**МАЛАДЗЕЧНА. 7 мая ў музычным вучылішчы адкрылася выстаўка фатаграфій памяці маладзечанскага фотамайстра Аляксея Фяцісава, які памер у канцы мінулага года.**

Акрамя яго работ, на выстаўцы прадстаўленыя здымкі маладзечанскіх фатографаў **Аляксандра Салагуба, Андрэя Каскіна** і **Мікалая Барана**. Найбольш шырока прадстаўленыя такія фотажанры, як партрэт, пейзаж і нацюрморт.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Архіў «РГ».

**Адна з работ фатографа Аляксея Фяцісава.**

# Юбілей Э. Асановіча

**МАЛАДЗЕЧНА. 7 мая ў Мінскім абласным драматычным тэатры адкрылася выстаўка мастака Эміра Асановіча. Яна прымеркаваная да яго 65-годдзя.**

Малюе ён з 14 год. Яго работы знаходзяцца ў прыватных калекцыях у Беларусі і за яе межамі: у Італіі, Германіі, у Маскве, Мінску. Дзве карціны ёсць у Мядзельскім музеі.

Яго работы – гэта пейзажы, нацюрморты, выкананыя на палатне алейнымі фарбамі. Сваё мастацтва Эмір Асановіч ахарактарызаваў так: – Гэта, хутчэй за ўсё, постімпрэсіянізм.

Усяго мастак напісаў больш за 500 карцін. На выстаўцы прадстаўлена каля 20. Сярод іх: «Спакой», «Выхадны дзень», «Прахалода», «Капліца ў Лідзе», «Былое Маладзечна».

**Таццяна СЕМАШКЕВІЧ.**

# На лепшага гаспадара

**МЯДЗЕЛ.** У раёне праводзіцца конкурс на лепшае падвор'е. Будзе браца пад увагу парадак на ім, азеляненне тэрыторыі, наяўнасць жывёлы і г.д. Устаноўлена шэсць прэмій: першая (у 10 базавых велічынь), дзве другія і тры трэція. Вынікі конкурсу падвядуць у снежні.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ КОНКУРСЫ

# Нясіце кветкі ў бібліятэку

**ВІЛЕЙКА. З 18 па 19 мая ў гарадской бібліятэцы пройдзе чацвертая гарадская выстаўка хатніх раслін "Свет нашых захапленняў". Будзе дзве намінацыі: кветкі, якія цвітуць, і кактусы.**

Расказвае загадчыца бібліятэкі **Людміла Івашкевіч**:

— Гэтая выстаўка праводзіцца з 1999 года і заўсёды ў маі, калі ўсе кветкі расцвітаюць. Летась на выстаўцы было прадстаўлена 73 экземпляры, а завітала 940 чалавек.

Спадзяемся, што ў гэты раз будзе больш гледачоў і ўдзельнікаў.

Прыносіць расліны можна да 17 мая, а рэгістрацыя праходзіць у чытальнай зале гарадской бібліятэкі. Але, як сказала Л. Івашкевіч, калі нехта прыйдзе з раслінай падчас выстаўкі, ён усё адно возьме ўдзел у конкурсе

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

### Рэпертуар на май

**Ранішнія спектаклі**

| | |
|---|---|
| 15 серада, 10-00 | **"Чарадзейства ў краіне Оз"** (казка-канцэрт) Галіна Булыка |

**Вячэрнія спектаклі**

| | |
|---|---|
| 15 серада, 19-00 | **"Кім"** (меладрама ў 2-х дзеях) Аляксей Дудараў |
| 17 пятніца, 19-00 | **"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча) Уладзімір Рудаў |
| 18 субота, 17-00 | **"Вечар"** (лірычная меладрама) Аляксей Дудараў |
| 19 нядзеля, 17-00 | **"Хачу..."** Выступленне народнага тэатра Маладзечна Мрожак |
| 23 чацвер, 19-00 | **"Хочаш вер – хочаш не вер..."** (жартоўная камедыя ў 2-х дзеях) Юрый Вута |
| 24 пятніца, 19-00 | **"Секс па перапісцы"** (трагікамедыя ў 2-х дзеях) Лявон Вашко |
| 28 аўторак, 19-00 | **"Чорная нявеста"** (меладрама ў 2-х дзеях) Жан Ануй |

Мастацкі кіраўнік – заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікалай Мацкевіч

Маладзечна, вул. Чкалава, 7 Тэл. каса 52417, гал. адміністратар 61732

# Беларускае малако сыходзіць з рынку

**МАЛАДЗЕЧНА. Апошнія год-два на беларускі рынак прыйшлі расійскія малочныя прадукты. З часам відаць, што прадукцыя айчынных малочных заводаў не вытрымлівае канкурэнцыі з-за вышэйшай цаны ў параўнанні з імпартнай. Хаця ў сярэдзіне 90-х усё было наадварот – беларускі тварог са смятанкай быў шырока вядомы на расійскіх прасторах.**

Цяпер беларускім перапрацоўчым прадпрыемствам даводзіцца цяжка – падаюць аб'ёмы вытворчасці, няма збыту прадукцыі.

### Чаму так атрымалася?

Гутарым з начальнікам вытворчасці Маладзечанскага гарадскога малочнага завода Марыяй Шостак:

– За апошнія гады ў расійскую перапрацоўчую прамысловасць прыйшлі інвестыцыі, з дапамогай якіх там мадэрнізавалі вытворчасць. Чаго, на жаль, не відаць у Беларусі. Наш завод можа рабіць дзесяткі відаў прадукцыі, але яны будуць даражэйшыя за расійскія. І ці знойдуць яны збыт – пытанне. У Расіі таннейшыя і сыравіна, і электраэнергія. І, нягледзячы на тое, што расіяне нясуць транспартныя выдаткі, ў выніку аказваецца, што іх прадукцыя таннейшая.


Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Маладзечанскі гарадскі малочны завод. Апаратары на лініі вырабу глазураваных сыркоў Любоў Мікуліч (злева) і Вольга Дасюлевіч (справа).**

### Новыя віды прадукцыі

9 мая планаваўся выпуск у гандаль напітак з сыроваткі – "Кактэйль сонечных фруктаў і ягад". Ён будзе ў поліэтыленавых пакетах ёмістасцю 0,5 л. Адпускная цана завода – крыху больш за 200 рублёў.

У маі ў продажы з'явіцца лячэбны напітак "Сталічны" для спажыўцоў з захворваннямі страўнікава-кішачнага тракта. Праз два тыдні спажыўцы могуць ацаніць новыя віды глазураваных сыркоў – з макам і з какавай. Яны будуць таннейшыя за звычайныя. Адпускная цана завода – каля 170 рублёў.

### Што далей?

Летась гармалзавод направіў на экспарт у Венгрыю 18 тон нятлустага сыру. Пасля таго – цішыня. Сёлета цэны на такі сыр на сусветным рынку знізіліся з 1,35 да 0,8 долара за кілаграм, што ніжэй за сабекошт вырабу сыру на Маладзечанскім гармалзаводзе. Цяпер тут на складзе на даспяванне ляжыць сыр "Галандскі". Яго гатовыя аддаць па нулявой рэнтабельнасці. Расіяне могуць узяць, але за паўцаны. А калі працаваць са стратамі, то наперадзе – крах. Калі маладзечанскія вырабы будуць таннейшыя, спажывец вернецца. Таму ідуць размовы аб замене масла ў складзе малочнай прадукцыі на раслінныя тлушчы. Марыя Шостак гаворыць, што па смакавых якасцях гэтыя тавары не будуць саступаць сучасным відам.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**Змяненне аб'ёмаў прамысловай вытворчасці на Маладзечанскім гарадскім малочным заводзе ў параўнанні з папярэднім годам**




### Гістарычная даведка

**Маладзечанскі гарадскі малочны завод заснаваны ў 1971 годзе. Заводам кіравалі Зоя Шкабарава (1971-78), Віктар Грунтовіч (1978-80), Яўген Вярбіцкі (1980-91), Уладзімір Бобрык (1991 – па цяперашні час).**

## Курсы валют НБ РБ

| | 2 мая | 8 мая |
|---|---|---|
| Долар | 1737,00 руб. | **1740,00** руб. |
| ЕЎРА | 1567,56 руб. | **1589,40** руб. |
| Злоты | 436,43 руб. | **439,87** руб. |
| Літ | 453,97 руб. | **460,15** руб. |
| Расійскі рубель | 55,68 руб. | **55,78** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1750 – 1770 руб. | **1750 – 1770** руб. |

## Маладзечна: Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 2.05 | 8.05 |
|---|---|---|
| **Курыныя кумпячкі**, 1 кг | 2580-2600 | **2600** |
| **Кілбаса с/вялен.**, 1 кг | 9900-11300 | **8800-12100** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 4320 | **2100-4900** |
| **Селядзец**, 1 кг | 2660 | **2660** |
| **Рыс**, 1 кг | 620-920 | **640-920** |
| **Грэчка**, 1 кг | 510 | **520-580** |
| **Цукар**, 1 кг | 720 | **735-740** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 880-980 | **880-980** |
| **Алей**, 1 л | 1600-1950 | **1500-1950** |
| **Маянэз**, 200 г | 300-550 | **360-570** |
| **Кава "Пеле"**, 100 г | 1900 | **1900** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 570 | **550-600** |
| **Соус там. «Мінскі»**, 0,5 л | 580 | **600** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 950-1500 | **900** |
| **Капуста**, 1 кг | 550-2600 | **1500-2500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 1700 | **1500-1700** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 1600 | **1550-1700** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| **Смятана**, 1 л | 1500-1800 | **1400-1800** |
| **Масла**, 1 кг | 3600 | **3500-3600** |
| **Тварог**, 1 кг | 1700 | **1300-1800** |
| **Малако**, 1,5 л | 500 | **500-600** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1200-1500 | **1200-1300** |
| **Бульба**, 1 вядро | 2200 | **2400-2700** |
| **Морква**, 1 кг | 1000 | **800-900** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 700 | **350-750** |

# Амерыканцы навучаць бульбу вырошчваць

Амерыканцы будуць дапамагаць вырошчваць бульбу. З гэтай мэтай доктар эканамічных навук Юліюс Нэльсан і яговая жонка Мэдора прыехалі ў Беларусь па запрашэнні дабрачыннага грамадскага аб'яднання "Сафія". Доктар Нэльсан, які мае намер правесці некалькі семінараў і сустрэч з адмыслоўцамі Мінсельгасхарчу, паведаміў, што сярэдняя ўраджайнасць бульбы ў ЗША складае 422 цэнтнеры з гектара. Самая высокая – 800-900 цэнтнераў. Пакуль на Беларусі ў сярэднім з гектара збіраюць каля 100 цэнтнераў бульбы.

**Радыё "Рацыя".**

# Чым бы расіянін ні мыўся...

Беларускія базары і крамы поўняцца самымі рознымі мыйнымі сродкамі, касметыкай: расійскімі, беларускімі, польскімі, нямецкімі. А чым мыецца наш усходні сусед? Як паведамляе інтэрнэтаўскае выданне «Известия.ру», расіяне смялей, чым заходнія спажыўцы, купляюць незнаёмыя тавары.

Расійскі касметычны рынак, які вярнуўся ў мінулым годзе да дакрызісных паказчыкаў, у гэтым годзе можа падняцца на якасна новую прыступку. Па ацэнках спецыялістаў, цяпер у Расіі вельмі да месца з'яўленне новых марак і брэндаў. Але калі ў сярэдзіне 90-х гадоў спажывец, які не зусім ачуняў ад эпохі дэфіцыту, гатовы быў прыняць усё, што яму прапаноўвалі, то сёння кампаніям даводзіцца прыкладаць больш намаганняў, каб завяваць яго ўвагу.

Па дадзеных Расійскай парфумерна-касметычнай асацыяцыі (РПКА), ёмістасць расійскага рынку складае каля 15-18 мільярдаў долараў, і дынаміка яго развіцця будзе залежаць ад паляпшэння пакупніцкай здольнасці насельніцтва ў бліжэйшыя гады. Тэарэтычна, на думку экспертаў, у сітуацыі, калі аб'ём рынку ў некалькі разоў ніжэй ёмістасці, стварaецца дастаткова спрыяльная сітуацыя для прыходу новых брэндаў і новых кампаній. Аднак практычна цяперашні час – не лепшы для выхаду на рынак новых кампаній, а некаторыя маркі, якія старыя кампаніі рыхтуюць да продажу летам, прысутнічалі на рынку і да крызісу.



Фота IREX/ProMedia.

**Расійскі рынак паглыне ўсё. Рэклама на маскоўскай вуліцы.**

На расійскім рынку сёння вельмі суровая канкурэнцыя. Буйныя кампаніі, напрыклад, Clairol, вяртаюцца цяжка, лакальныя і зусім не могуць вярнуцца, таму што цяпер пачаць бізнес з нуля, як раней, стала немагчыма.

Што тычыцца суадносінаў на рынку расійскіх і заходніх кампаній (35 і 65% адпаведна), то яны ў бліжэйшыя гады, хутчэй за ўсё, будуць мяняцца. Пакуль расійскія кампаніі адчуваюць сябе ўпэўнена толькі ў такой сферы, як сродкі гігіены. Расіяне купляюць айчыннае мыла і шампуні ў два разы часцей, чым заходнія маркі. Аднак дэкаратыўная касметыка і парфумерыя расійскімі кампаніямі прадстаўленыя настолькі дрэнна, што пакуль цалкам саступаюць заходнім маркам. У гэтай галіне расійскім кампаніям давядзецца цяжка. Захад ужо не разглядае Расію як краіну, у якую можна збываць нямодны тавар. Большасць навінак буйнейшых еўрапейскіх кампаній паступае на расійскі і на еўрапейскі рынкі аднача́сова. Пры гэтым маркетолагі заходніх кампаній адзначаюць, што расіянкі, у адрозненне ад жыхарак Еўропы, часцей "купляюцца на рэкламу" і больш ахвотна трацяць грошы на невядомы тавар.

**Известия.ру**

■ «РГ»-СТАТЫСТЫКА

# Беспрацоўе ў рэгіёне

| | колькасць беспрацоўных на 1 мая | узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1736 (+44) чал. | 2,86% |
| Маладзечанскі раён | 334 (-8) чал. | 1,37% |
| Астравецкі раён | 447 (+13) чал. | 3,06% |
| Ашмянскі раён | 161 (+2) чал. | 0,9% |
| Валожынскі раён | 206 (+43) чал. | 0,96% |
| Вілейскі раён | 618 (+1) чал. | 1,92% |
| Мядзельскі раён | 321 (+14) чал. | 1,7% |
| Смаргонскі раён | 1308 (+10) чал. | 3,73% |

У дужках паказаныя змяненні ў параўнанні з красавіком.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

# На «Радыётэхніцы» просяць прыбаўку да зарплаты

АШМЯНЫ. Рабочыя зборачнага цэха АТ "Радыётэхніка" даслалі ліст у рэдакцыю. Яны незадаволеныя сваёй зарплатай, якая налічваецца па першым, самым нізкім, разрадзе тарыфнай сеткі. Рабочыя хочуць, каб ім павысілі аплату згодна з іх кваліфікацыяй, бо яны выконваюць аперацыі 2-3 разраду. Цяперашняя зарплата, па словах рабочых, складае 70-80 тысяч рублёў. І выплачваецца з затрымкай. Апошнюю – за сакавік – выплацілі на 3 тыдні пазней.

Дырэктар завода **Вацлаў Баркоўскі** сказаў, што з 1 мая ён сваім загадам перавёў рабочых зборачнага цэха на аплату іх працы па другім разрадзе тарыфнай сеткі. Фактычна зарплата вырасце на 10-15%.

– Прыраўняць зарплату зборшчыкаў да трэцяга разраду па тарыфнай сетцы я не магу і не буду. Нерэальна ім плаціць зарплату высокакваліфікаванага рабочага. Такую, як у нашых асноўных цэхах, дзе рабочыя 6-8 разрадаў атрымліваюць па 200-250 тысяч рублёў.

**Ірына РАБУШКА.**

# Вялікдзень у прыёмным пакоі

МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю ўсе праваслаўныя святкавалі Вялікдзень. Нехта дома з роднымі і знаёмымі. Хтосьці на прыродзе, а карэспандэнты "РГ" на Вялікдзень аддзяжурылі ў прыёмным пакоі маладзечанскай гарбальніцы 4 гадзіны – з 20-00 да поўначы.

Там разам з выказваннямі медыкаў пра "насычаную" змену гучалі традыцыйныя словы: "Хрыстос уваскрэс, свята працягваецца".

У гэтую ноч працавалі ўрач **Аляксандр Рамановіч**, медсястра **Надзея Захарыч** і санітарка **Людміла Бурыба**.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Прыёмны пакой маладзечанскай гарбальніцы, 5 мая. Пад вечар пачаліся званкі. Кансультацыю дае санітарка Людміла Бурыба.**

## Астматык і паранены

Не паспелі мы пазнаёміцца, як прывезлі 32-гадовую жанчыну. У яе былі сутаргі. Увайшла дзяўчына, сястра хворай. Адразу пачала расказваць:

— Былі на прыродзе. Выпілі самагонкі, прыкладна 1,5 літра на траіх. Яна сказала, што адпачне, але ж упала.

Высветлілася, што ў жанчыны астма. Але ўрач не быў упэўнены, што сутаргі ўзніклі з-за гэтай хваробы. Насцярожылі парэзы на руках і шрамы ад парэзаў на венах.

Праз 5 хвілін (20-20) унеслі 19-гадовага хлопца з нажавым раненнем. Ён крычаў, што баліць жывот і прасіў вады, але яму нельга было піць. Разам з урачамі спрабаваў дапамагчы напалоханы сябар пацярпелага.

Расказвае ўрач хуткай дапамогі **Іван Лыско**:

— Выклік паступіў у 17-46 з Вязынкі. Параненага знайшоў сябар, які жыве паверхам вышэй. Расказаў, што жонка пырнула. Пакуль даехалі, 2 літры раствору ўлілі, потым флакон у Радашкавічах пазычылі.

Параненага хутка павезлі рыхтаваць да аперацыі, а Надзея Захарыч выклікала па тэлефоне хірурга.

— Што з ім будзе? – пытаемся ў Лыско.

— 85% верагоднасці, што памрэ. Увесь кішэчнік прапораты. Яшчэ напішыце, калі ласка, каб медвыцвярэзнік адкрылі. Усюды п'яных возім, а нідзе не прымаюць. За суткі бывае па 10 чалавек. Не ведаеш, куды іх падзець.

З іншага пакоя выйшла сястра жанчыны з сутаргамі.

— Дзякуй Богу, апрытомнела. Нават пагутарылі. Доктар казаў, што гэта ад нерваў.

## Аварыя

20-30. У пакой забегла жанчына.

— Дайце каталку. Там аварыя! У жанчыны ногі адняліся, — гаварыла яна праз слёзы.

Але ўсяго было 2 каталкі, і яны былі занятыя. Жанчына сама працавала ў прыёмным пакоі, таму пабегла шукаць насілкі. Праз 5 хвілін унеслі 25-гадовую жанчыну, якая назвалася Аленай. З ёй была нявестка.

— Яе збіла машына. Алена страціла прытомнасць, а цяпер не адчувае ног ад каленяў.

Чакалі, пакуль прыйдзе ўрач. Зайшоў міліцыянер і распытваў пра хлопца з раненнем. Адказалі, што выпадак сур'ёзны, ідзе аперацыя. Калі прыйшоў Аляксандр Рамановіч, адразу павезлі Алену на рэнтген. Праз 5 хвілін ён ужо прыйшоў разам з хворай.

— Што вы зрабілі? Яна ж самастойна ідзе, — запыталася я.

— Нічога. Проста пагутарылі, ды і шок прайшоў, — адказаў ён і папрасіў у Людмілы Бурыбы даведку з пячаткай.

Пацярпелых адвезлі у дзяжурную часць міліцыі.

## «Цыгарэты не забудзься»

20-55. Зайшлі два пабітыя мужчыны разам з міліцыянерамі.

— Трэба дапамогу аказаць. Можа, шоўчыкі зрабіць, — папрасіў лейтэнант.

Але ўрачоў не было, таму што ішлі дзве аперацыі, а медсястра пайшла гіпс накладваць.

Пабітыя здзіўляліся, калі ўбачылі сябе ў люстэрку, увесь час жартавалі. Хаця ў аднаго апух нос і была рассечаная скула, а ў другога быў парэзаны твар і вуха. Высветлілася, што гэта сваякі, яны пабіліся з кімсьці з-за жанчыны. Праз гадзіну ім наклалі швы і накіравалі ў траўматалогію, таму што ў абодвух былі чэрапна-мазгавыя траўмы.

Адзін з іх папрасіў дазволу патэлефанаваць дадому.

— Таксі на Дуброўку выклікалі? — пачаў ён размову, але не туды трапіў. Потым зноў набраў нумар:

— Нас у бальніцу паклалі. Перадай Наташы, няхай заўтра цыгарэты і шмоткі прынясе. Адкуль тэлефаную? З Маладзечна. Ты перадай, каб цыгарэты прынесла. Добра. Хочаш, сама прыходзь, але цыгарэты не забудзься.

Смяючыся ўвесь пакой, але, як сказала Надзея, яны ўжо звыкліся з такімі жартамі.

## Час адпачынку

Паступова ўрач разабраўся з усімі даведкамі і пайшоў пакурыць з хірургамі. Прыйшла Людміла Бурыба:

— З васьмі раніцы было спакойна. А цяпер нейкі хаос. За суткі бывае па 50-60 чалавек, таму адпачываем, як атрымаецца, — гаварыла яна.

Аперацыя, што рабілі параненаму хлопцу, яшчэ доўжылася.

## Вынікі закрыцця медвыцвярэзніка

22-10. Прыехала "хуткая". Унеслі двух п'яных мужчын. Першы яшчэ мог сядзець, а другога паклалі побач з кушэткай.

— Такое свята! Як пачаліся "завалы" з 13-00, дык і доўжацца. Учора была ўсяночная ў царкве, а сёння – на рабоце. Вось знайшлі 21-гадовага хлопца на Старым Месце. У яго страсенне галаўнога мозгу, пераломам касцей носа. Ён п'яны. Сведкі расказалі, што бачылі, як яго пабілі. Другога забралі каля СШ №5. Так напіўся, што нічога не можа сказаць. Добра, паехалі. Але яшчэ не развіталіся, — сказала работнік "хуткай" **Жанна Чумакова**.

Пабітаму хлопцу зрабілі рэнтген і рыхтавалі, каб пакласці ў бальніцу.

Дыягназ Жанны Чумаковай пацвердзіўся.

Праз 20 хвілін зайшлі тры мужчыны. Адзін з іх сказаў, што вывіхнуў палец. Аляксандр Рамановіч накіраваў яго на рэнтген, а пасля яму зрабілі перавязку. Спадарожнікі пацярпелага сказалі, што ён майстар спорту па самба і на Вялікдзень вывіхнуў палец пры барацьбе.

Час пік прыёмаў прайшоў. У 22-45 з'явілася 26-гадовая дзяўчына з хлопцам. Яна парэзала руку. Пасля перавязкі і прышчэпкі ад слупняку таксама пайшла дадому.

Зноў час цішыні. Завіталі міліцыянеры, якія пайшлі ў рэанімацыю, каб даведацца пра хлопца з нажавымі раненнямі. Аляксандр Рамановіч пажадаў нам добрай ночы і пайшоў адпачыць. Надзея Захарыч нешта запісвала ў журнал прыёмаў. Людміла Бурыба прыбірала мыйны пакой.

Поўнач. Мы развіталіся з нашай зменай. Першы дзень Вялікадня мінуў.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ ДЗЕЛЯ ЗДАРОЎЯ

## Прафілактыка лепш за лячэнне

Калі хочаце палепшыць стан свайго здароўя, уключыце ў сваю рэгулярную дыету аліўкавы алей. У тых, хто, самае меншае, тыдзень спажываў гэты алей, выразна паменшыўся ўзровень халестэрыну ў крыві. Пасля сямі дзён малекулы "дрэннага" халестэрыну ў артэрыях і венах стабілізаваліся на бяспечным узроўні, што змяншае верагоднасць атэрасклерозу. Калі замест высокакаларыйнага тлушчу вы будзеце спажываць раслінны, у прыватнасці, аліўкавы алей, ваш біялагічны ўзрост будзе на 6 год малодшы.

Вельмі карысныя для прафілактыкі раку бразільскія арэшкі. У адрозненне ад іншых арэшкаў, бразільскія з'яўляюцца выключным антыаксідантным прадуктам. Ешце на сняданак сярэднюю порцыю гэтых арэшкаў – гэта дасць арганізму 800 міліграмаў надзвычай карыснага мінералу – селену. Згодна з найноўшымі даследаваннямі, селен выдатна прадухіляе захворванне ракам грудзей і прастаты.

Больш увагі трэба звяртаць на здароўе ног, бо нават лёгкія недамаганні могуць прывесці да сур'ёзных ускладненняў. Нават пазногаць або балючы мазоль могуць выклікаць боль спіны і сцёгнаў. Асабліва трэба глядзець сябе старэйшым людзям – калі ў іх хворыя ногі, яны часцей падаюць і калечацца. Трэба больш дбаць пра ногі, насіць выгодны абутак і з кожнай праблемай звяртацца да спецыяліста. Калі стала сачыць за сваім здароўем, вы будзеце адчуваць сябе на 12 год маладзейшымі.

**Па матэрыялах "Радыё Свабода".**

■ ПАРАДЫ ЎРАЧА

## Вашы дзеці збіраюцца ў летнік

Асноўныя фактары ўмацавання здароўя дзяцей, што знаходзяцца ў летніку – фізічная трэніроўка, рэжым харчавання і адпачынку, навыкі групавой дзейнасці. У цэлым, рэжым, які трэніруе, але дзеці, якія маюць хранічныя захворванні, вылучаюцца ўрачом летніка ў групу дыспансернага ўліку і назірання. Даведку аб допуску ў летнік выдае ўчастковы педыятр пры адсутнасці абвастрэння. Такія дзеці адаптуюцца горш, таму пры вызначэнні фізічнай нагрузкі падыход да іх індывідуальны.

Другая праблема – прыстасаванне дзяцей, якія ўпершыню ў летніку. Рэкамендуецца папярэдняя падрыхтоўка ў форме абмеркавання, ролевых гульняў, сустрэчы з равеснікамі, якія раней бывалі ў летніку. Карысна набыццё такіх навыкаў, як засціланне пасцелі, мыццё шкарпэтак і насовак, прывычка сушыць адзенне і абутак. Абмеркаванне пытанняў і праблем дзіцяці садзейнічае змяншэнню пачуцця трывогі і страху перад будучай самастойнасцю. Харчаванне кантралюецца вельмі старанна фінансавымі органамі, медыцынскай, санітарна-эпідэміялагічнай службай. Рацыён дзіцяці, якое знаходзіцца ў аздараўленчым летніку, у сярэднім, на 10% перавышае фізіялагічную норму, што звязана з вялікай фізічнай актыўнасцю дзяцей. Склад і якасць рацыёну вызначаецца кіруючымі дакументамі. У малярухомых дзяцей нярэдка паніжаны апетыт. Акрамя таго, дзіця прывыкае да пэўных традыцый харчавання ў сям'і. Дарэчы, яны не заўсёды карысныя для здароўя, яўна прасочваецца празмерная прыхільнасць да бульбы, макароны, кілбасаў. Рацыён, складзены на аснове рэкамендацый гігіеністаў, аказваецца нязвыклым для дзіцяці. Асабліва засмучэнне выклікае нежаданне есці рыбу. Рыбу, морапрадукты могуць дазволіць сабе ў належнай колькасці не ўсе сем'і, і, не маючы звычкі, дзеці адхіляюць рыбныя стравы.

Вельмі карысныя наведванні бацькоў і родных. Пасля ад'езду бацькоў дзіця можа засумаваць, але такая рэакцыя кароткачасовая, і адаптацыя праходзіць лепш. Важнае значэнне мае экіпіроўка. Дрэнна, і калі шмат рэчаў, і калі мала. Куртка і галаўны ўбор абавязковыя. Абутак павінен быць разношаны, неабходная запасная пара на выпадак намакання.

Адказнасць за здароўе і бяспеку дзяцей нясе персанал летніка.

**Аляксандр ГУЛАК, урач, Маладзечна.**

## За кратамі дыспансера

**ВІЛЕЙКА**. Вілейскі анкалагічны дыспансер заснавалі ў 1947 годзе. Ён займаў падвал і два пакоі. У 70-я гады перайшлі ў цяперашняе памяшканне. Гэты будынак з царынінскіх часоў быў турмой. Праект новага будынка, які хацелі ўзвесці побач са старым, так і не ажыццявілі. У савецкія часы зрабілі нулявы цыкл, але віляйчане і не толькі выступілі супраць будоўлі. Бо на гэтым месцы ў розныя часы расстрэльвалі людзей. І пры будаўнічых работах знайшлі чалавечыя астанкі.

Галоўны ўрач **Канстанцін Пышкала**:

— Невядома, што тут рабілася на самой справе. Мы сабралі астанкі і захавалі іх на могілках. Устанавілі помнік.

На сцяне бальніцы, колькі яго ні замазвалі, колькі ні забельвалі, з цягам часу праступае польскі надпіс "вёнзене". Будынак мае прыгнятальны выгляд. Скляпеністая столь наводзіць жах. Вузенькія калідоры запоўнены цемрай. Уяўляеш нават прывіды катаў, чуеш грукат ботаў. І гул у вушах ад незразумелых галасоў. У бальнічных палатах ляжаць, здаецца, сапраўдныя пакутнікі.

Але на новы будынак галоўны ўрач не разлічвае. Летась пачалі рамантаваць старэ. Грошы – з раённага бюджэту і ўпраўлення аховы здароўя Мінскай вобласці. Маладзечанскае ДРБУ праклала водаправод, адрамантавала каналізацыю. Зрабілі касметычны рамонт у палатах, паклалі лінолеум. Надзённая праблема – рамонт даху. Летась Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі закрыў харчаблок. Харчаванне хворым прывозяць з бальніцы. І вось у такіх умовах людзі набываюць другое нараджэнне ці хаця б надзею на яго. Сярэдні курс лячэння ў бальніцы 18 дзён. Бываюць, зразумела, адхіленні ў той ці іншы бок. 13 урачоў працуюць у двух аддзяленнях. У дзень нашага прыезду пацыентамі лічылася 117 чалавек. Летась лячэнне анкахворых раёну абышлося ў суму, большую за 14 мільёнаў рублёў.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА

**Урач-рэнтгенолаг Вілейскага анкалагічнага дыспансера Аляксандр Мажуль.**

Самае новае абсталяванне набылі ў 2001 годзе – апарат для лячэння раку скуры. Апарат глыбокай рэнтген-тэрапіі, якім карыстаюцца ў бальніцы, ужо не выпускаецца.

Урач-рэнтгенолаг **Аляксандр Мажуль**:

— Жывем бедна. Апарат працуе, але павінен ужо быць спісаны.

У належным стане працуе апарат для прамянёвага лячэння. Так званы мірны атам. Дарэчы, па палажэнні, пад ім вырыты катлаван у 8 метраў глыбінёй. Для хіміятэрапіі ёсць усе неабходныя прэпараты.

**Ірына РАБУШКА.**



# ВІНШАВАНКІ

**Леаніда Леанідавіча Мількоту** з в. Ілья сардэчна віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, добрага настрою. *Жонка, дзеці.*

Віншуем з днём нараджэння **Соф'ю Філіпаўну Юрэцкую**! Шчасця вам, здароўя, дабрабыту. *Дачка, зяць, унук, сваты.*

Віншуем з днём нараджэння **Наталлю Андрэеўну Гапановіч**! Жадаем шчасця, здароўя, кахання. *Муж, сын, бацькі.*

З юбілеем **М. Н. Ляўковіч**. Дарагая суседка! Прымі нашы віншаванні і пажаданні шчасця, здароўя, бадзёрасці і дабрабыту. *Капацэвічы.*

Віншуем з 20-годдзем **Марыну Карташэвіч**! Жадаем шчасця, здароўя, удачы, прыгажосці, моцнага кахання. *Суседзі.*

Віншуем дарагую хросную мамачку і сястру **Яўгенію Васільеўну Мацкевіч** з днём нараджэння! Здароўя, поспехаў і дабрабыту. *Шацёр, Сівагракавы.*

## ІМЯНІНЫ

**10 мая**
**Праваслаўныя:** Сямёна.
**Каталіцкія:** Антаніны, Антона, Ізыдара, Яна.
**11 мая**
**Праваслаўныя:** Аўсея, Віталя, Зіновія, Кіра, Кірылы, Максіма.
**Каталіцкія:** Людаміра, Мамэрта, Філіпа, Францішка.
**12 мая**
**Праваслаўныя:** Арцёма, Багдана, Васіля, Івана, Фядота, Філімона.
**Каталіцкія:** Дамініка, Панкрата.
**13 мая**
**Праваслаўныя:** Васіля, Даната, Ігната, Якава.
**Каталіцкія:** Роберта, Сэрваца.
**14 мая**
**Праваслаўныя:** Тамары, Ерамея, Ігната, Яфіма.
**Каталіцкія:** Баніфата, Дабеслава, Мацея.
**15 мая**
**Праваслаўныя:** Зоі, Апанаса, Барыса, Глеба, Давыда, Рамана.
**Каталіцкія:** Соф'і, Ізыдара, Яна.
**16 мая**
**Праваслаўныя:** Пятра, Цімафея.
**Каталіцкія:** Андрэя, Венчыслава, Сымона.



# ЗНАЁМСТВЫ

Сімпатычная жанчына 44/163/68 пазнаёміцца з добрым сімпатычным мужчынам (ад 37 да 44 год), які стаміўся ад адзіноты. 231005, Смаргонь-5, п/п КН 0451248.

Цікавая жанчына 43/176 пазнаёміцца з прыстойным мужчынам 40-55 год, без шк/зв. Жыллём забяспечаная. Маладзечна-7, МС 0344690.

■ ДНЮ ПЕРАМОГІ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

# На вайне як на вайне

Мая сям'я жыла ў Чачэрскім раёне Гомельскай вобласці. Калі гэты край быў акупаваны, дзед стаў камісарам партызанскага атрада "За Радзіму", яго жонка (мая бабка) – сувязной. Сям'я была шматдзетная, а пра тое, што яна звязаная з супрацівам, ведала ўся вёска.

Аднойчы ноччу нехта пачаў моцна грукаць у дзверы. Адчынілі. На парозе камендант гарнізона. Зайшоў, паглядзеў на дзетак, потым на іх маці. Кажа:

— Вы – партызанская сям'я. Каб да раніцы з'ехалі з вёскі, бо прыедзе "СС". Вас выдаў ваш рускі староста. Уцякайце.

Уцяклі яны ў суседнюю вёску, што ў трох кіламетрах ад роднай. І там усе ведалі, хто яны такія. А рускі староста праз некаторы час знік.

### «Падушачкі»

Нядоўга пратрымаліся і на новым месцы. Звычайна партызаны наладжвалі дыверсіі далёка ад населеных пунктаў, каб не наклікаць на іх бяду. А тут нехта забіў двух немцаў ля самай ваколіцы вёскі. Помста не прымусіла сябе чакаць. Карнікі атачылі вёску, сагналі ўсіх яе жыхароў пад кулямёты. Дамы запалалі. Дарослыя паставілі дзяцей у сярэдзіну натоўпу і закрылі іх сваімі целамі. Быццам гэта магло чым дапамагчы. Мая маці і яе сёстры сваім дзіцячым розумам не ўсведамлялі жудасць сітуацыі. Адзінае, пра што яны шкадавалі, гэта што разам з хатай гараць "падушачкі". Калі хто памятае, так тады называліся цукеркі.

Праз некаторы час паступіў загад застацца мужчынам узросту ад 16 год і вышэй. Калі жанчыны з дзецьмі пакінулі гэтае месца, там загрукаталі кулямёты.

### Запалкі дзеля перамогі

Аднойчы пад раніцу маю бабулю з дзецьмі пабудзіў шкрэб за шыбай. Адчынілі дзверы. Увальваюцца нейкія мужыкі са стрэльбамі – мы, маўляў, партызаны. Давай хутка што есці і абавязкова давай запалкі (бо з імі тады была вялікая праблема)! На самой справе гэта былі такія "партызаны", на якіх палявалі як немцы, так і сапраўдныя партызаны. Тым больш, што бабуля ведала нарыхтоўшчыкаў са свайго атрада.

Але рабіць няма чаго, супраць стрэльбаў не папрэш. Дала ім тое-сёе з ежы і ўжо пачала выпраўляць з хаты, як дзеці з прыпечка пачалі гаманіць:

— Мама, мама, ты яшчэ забылася пра запалкі! Яны ж там, за шуфлядай схаваныя. Апошнія.

Адзін "партызан" адапхнуў зніякавелую кабету і са словамі "яны нам патрэбныя дзеля перамогі" выграб усе да апошняй.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно



Прывітанне, шаноўныя!

На жаль, мінулае заданне нашыя ўдзельнікі не здолелі разгадаць. Персанаж аднаго з твораў гэтага аўтара любіў арыфметыку за тое, што сшыткі, у якіх пішаць вучні – у клетачку.

Наступнае заданне. У сакавіку ў Расіі выраслі цэны на платныя паслугі насельніцтву. Асабліва выраслі жыллёва-камунальныя паслугі. Гэты факт дазволіў адной з расійскіх газет параўнаць адпаведнае ведамства з адным лонданскім жыхаром пазамінулага стагоддзя. Пытанне: з якім?

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

# Хлебная салата з гароднінай

800 г чэрствага белага хлеба, 125 мл чырвонага віннага воцату, 1 пучок зялёнай цыбулі, 500 г памідораў, 1 доўгі агурок, 3 зубкі часнаку, соль, перац, 150 мл алею. Нарэзаць скрылькамі хлеб. Перамяшаць 1/2 воцату з 200 мл вады і пакласці ў гэтую сумесь хлеб прыкладна на 10 хвілін. Нарэзаць зялёную цыбулю. Памідоры разрэзаць кожны на 8 частак. Агурок нарэзаць кубікамі. Адціснуць хлеб, расцерці яго і перамяшаць у місцы з гароднінай. Часнок пачысціць, прапусціць праз прэс, перамяшаць з астатнім воцатам, солью і перцам і ўліць алей. Паліць запраўкай прадукты для салаты, перамяшаць і пакінуць прыблізна на 30 хвілін.



# Пірог «Аб'ядзенне»

Распусціць 1/2 пачка маргарыну (масла). Памешваючы лыжкай гарачую масу, усыпаць невялікім струменьчыкам 1 шклянку мукі. Замясіць цеста, дадаць 2-3 лыжкі смятаны, добра вымесіць і паставіць у халадзільнік. Нарэзаць паўкольцамі (можна і драбней) 400 г цыбулі, прыпусціць у алеі да паўпразрыстасці. Саліць на смак. У патэльню выкласці цеста, зверху – цыбулю. Узбіць 2-3 яйкі з 200 г смятаны, заліць цыбулю і выпякаць у духоўцы 30-35 хвілін.

# Жыў-быў Дзіма

**Жыў-быў хлопчык Дзіма. Гуляў з вялікай машынай. Збіраў значкі. У школе розуму вучыўся. Набыў прафесію вадзіцеля. У армію схадзіў. Жонку сабе выгадаваў – на 6 год маладзейшую. Арэхі любіў пагрызці. І захацелася яму чагосьці цікавейшага ад жыцця. Вырашыў змяніць месца працы.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Дзмітрый Хімчанка.**

Хутка будзе 8 год, як працуе ў пажарнай часці. Даездзіўся да лепшага інструктара-вадзіцеля.

Інспектар дзяржпажнагляду **Алена Альфер** так ахарактарызавала Дзмітрыя:

– Старанны, інтэлігентны, ураўнаважаны, добры, карэктны, ветлівы. Вельмі любіць сына.

Дзмітрый згадзіўся са сказанымі пра яго словамі. У "пажарку" прыйшоў працаваць па асабістым жаданні.

Прыгод захацелася. У свабодны ад работы час любіць павалтузіцца з сынам: гуляюць з канструктарам, кубікамі. Пажарная машына таксама ёсць. Любіць пагладзець гульнявыя тэлеперадачы.

Была ідэя з'ездзіць на "Поле цудаў".

— Гляджу на сына, які раскідвае захаваныя з майго дзяцінства значкі, і мару, каб быў ён Чалавекам. Гэта галоўнае.

Тут жа прыпамінае, як ездзіў у Польшчу. Гаворыць, што людзі там больш культурныя. Вакол чыста, акуратна. Нейкі толк у жыцці ёсць. У нас жа хамства, мабыць, гістарычна закладзенае.

У людзях **Дзмітрый Хімчанка** цэніць сумленнасць, прыстойнасць і не церпіць здрадніцтва.

**Ірына РАБУШКА.**

# Падпіска на 2002 год

Сябры! Пачалася падпіска на "РГ" на другое паўгоддзе. Індывідуальная падпіска на 1 месяц каштуе 1306 рублёў, ведамасная – 4607 рублёў.

**Заставайцеся з намі ва ўсе часы!**

## Кінатэатр «Радзіма»

**Май**
**Вялікая зала**
10 – 14 "**Вайна**", Расія 18-00, 21-00
10 – 12 "**Шрэк**", ЗША 16-00, пасля фільма – дыскатэка
13 – 14 "**Парк Юрскага перыяду-3**", ЗША

**Для дзяцей**
10 – "**Зладзюжкі**" 13-00
11 – "**Бетховен-4**" 13-00
12 – "**Хобіт**" 13-00
14 – "**Дзіўная знаходка, або самыя звычайныя цуды** 13-00"

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 95 ГОД ТАМУ

# У Радашкавічах была вялікая баталія

**Радашковичы** Вилейскаго павету. На праводным тыдню ў нашым рэсторани была надта вялікая баталія. Бились, хто чым папаў: киями, кулаками и бутэльками. А ўсё гэта робиць праклятая гарэлка. Ци ня лепей было б адкрыць ў Радашковичах замест рэсторана библиотэку, ды народныя чытання, а то наш мужык ня мае другой пацехи и разрыўку, як ў пьянстве.

**Цьвярозы.**

**Першая Беларуская Газэта з Рысункамі «Наша Ніва». №18 ад 13 мая 1907 года.**

# Мядзяльчане глядзяць сталічнае тэлебачанне

МЯДЗЕЛ. Ад 1 мая адбыліся змены ў сетцы тэлеканалаў, якія распаўсюджваюцца рэтранслятарам у Целяках, што недалёка ад Мядзела. На 34-дэцыметровым канале замест віцебскага канала 6ТВК цяпер ідзе СТВ, які большай часткай рэтранслюе расійскі канал RenTV. Зроблена гэта для таго, каб жыхары вобласці маглі глядзець сталічнае тэлебачанне. Радыус упэўненага прыёму складае 35 кіламетраў. Але пры жаданні канал можна глядзець і ў суседніх раёнах.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** **19**

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».**
**Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.**
**Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

# Цырульня «Веста»

**МАЛАДЗЕЧНА. Нядаўна працуе ў горадзе цырульня "Веста". Пра свой шлях у прафесію і цырульню расказвае яе дырэктар Алена Глаўніцкая.**

– Скончыла школу. Трэба было вызначацца. Разгарнула з сяброўкай даведнік для паступаючых. Наткнулася на Мінскі тэхналагічны тэхнікум. Падчас вучобы ўлюбілася ў справу цырульніка. Хацелася як мага больш удасканаліць сваю працу. Паехала ў Львоў на вышэйшыя курсы цырульнікаў-мадэльераў. 15 год адпрацавала звычайным цырульнікам. І захацелася ў сваёй справе чагосьці незвычайнага. Дзяржаўныя структуры не давалі прафесійнага развіцця. У 1997 годзе вырашыла адкрыць сваю цырульню. Сваю "Весту".

Цяпер працуюць тут кваліфікаваныя цырульнікі, пераможцы і ўдзельнікі розных конкурсаў **Іна Агейчанка**, **Святлана Давыдава**, майстар па педыкюры і манікюры **Наталля Іванюценка** і я, дырэктар цырульні – цырульнік-мадэльер.

Цырульня аказвае ўсе віды цырульніцкіх паслуг. З навінак – манікюр і апаратны педыкюр.

**Ірына РАБУШКА.**



■ ТЭАТР "БАТЛЕЙКА" ЗАПРАШАЕ

# "Маша і Мядзведзь"

Ці ведаеце вы, чаму заблукала Маша ў лесе? Па-першае, яна не паслухалася сваіх дзядулю і бабулю. Па-другое, вельмі захапілася, калі ўбачыла, колькі ягад у лесе. Ды вось бяда! Яшчэ сяброўкі недзе зніклі, як скрозь зямлю праваліліся. Але Маша не разгубілася і знайшла хатку, у якой жыве Мядзведзь. І што тут пачалося! Не, Мядзведзь не з'еў Машу, таму што яна яму вельмі спадабалася і навучыла зубы чысціць, пашыла яму штаны. А яшчэ закранула самыя трапяткія струны яго мядзведжай душы. Адным словам, Мядзведзь знайшоў сабе сябра, а сапраўднае сяброўства здзяйсняе сапраўдныя цуды.

# Канцэртна-забаўляльная праграма "Вясёлкі Батлейкі"

Наш вядучы Афрыкан Афрыканавіч, які ведае ўсё, запрашае вас у падарожжа па Вясёлцы. Вы сустрэнецеся з вясёлымі качанятамі, магутнымі самураямі, убачыце Сымона Спілберга з яго "Паркам Юрскага перыяду" і зорку беларускай эстрады Алесю, апынецеся ў лазні, зможаце патанчыць з аўстралійскімі страусамі і маленькім чалавечкам і даведаецеся пра гісторыю кахання бабулькі беларускай эстрады Юстысі Шалёнавай.

Гэтая праграма закрые тэатральны сезон у "Батлейцы".

**Таццяна ЧАЕЎСКАЯ.**

